# КОНТУРНЫЯ КАРТЫ

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## СА СТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА КАНЦА XV ст.

*Рэкамендавана Навукова-метадычнай установай „Нацыянальны інстытут адукацыі“ Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*






## 6 КЛАС

МІНСК
„БЕЛКАРТАГРАФІЯ“
2017

## Правілы работы з контурнымі картамі

1. Прачытайце адпаведны параграф вучэбнага дапаможніка і ўважліва разгледзьце карты, калі яны там прысутнічаюць.

2. Знайдзіце ў атласах „Гісторыя Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.“ і „Гісторыя Беларусі, другая палова XIII – першая палова XVI ст.“ адпаведныя карты і азнаёмцеся з іх зместам і ўмоўнымі абазначэннямі.

3. Прачытайце заданне і вызначце парадак яго выканання. Абавязковыя для выканання толькі тыя заданні, якія даў настаўнік.

4. Уважліва разгледзьце контурную карту, знайдзіце тыя ўмоўныя абазначэнні, якія спатрэбяцца для выканання задання. Калі неабходна, вызначце свае ўмоўныя знакі для выканання задання.

5. Пры нанясенні аб'ектаў на карту прытрымлівайцеся дакладнасці іх месцазнаходжання з дапамогай арыентацыі па берагавой лініі мораў, па рэках, па межах дзяржаў.

6. Надпісы на карце выконвайце спачатку простым алоўкам, а пасля праверкі – каляровымі алоўкамі або ручкамі. Надпісы трэба рабіць разборліва, акуратнымі літарамі. Асобныя тэрыторыі трэба замалёўваць роўным, нияркім колерам, а межы пазначаць яркімі выразнымі лініямі без разрываў.

7. Запаўняць карты трэба так, каб надпісы і ўмоўныя знакі не перашкаджалі адзін аднаму.

8. Заданні па храналогіі выконваюцца на стужцы часу; іншыя заданні выконваюцца ў вызначаным побач месцы.

*Умоўныя абазначэнні, якія сустракаюцца на контурных картах*

Межы дзяржаў, княстваў, зямель, іншых тэрыторый

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

Сталіцы дзяржаў

Цэнтры зямель, асобных княстваў

Іншыя населеныя пункты

# НАЙСТАРАЖЫТНЕЙШЫЯ ЛЮДЗІ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ




*На стужцы часу:*

1. Выдзеліце штрыхамі чырвонага колеру перыяд каменнага веку.
2. Адзначце рысачкамі час пачатку і завяршэння апошняга буйнога зледзянення.
3. Адзначце тлустай рысачкай час адыходу апошняга ледавіка з тэрыторыі Беларусі.
4. Зафарбуйце зялёным колерам адрэзак часу, на працягу якога тэрыторыю Беларусі маглі наведваць неандэртальцы.
5. Пазначце чорнымі рысачкамі час існавання на тэрыторыі Беларусі найбольш старажытных стаянак.
6. Зафарбуйце сінім колерам перыяд сярэдняга каменнага веку.

Маштаб 1:4 000 000

1. Абвядзіце чырвонай рысай сучасную граніцу Рэспублікі Беларусь.
2. Падпішыце найбольш буйныя рэкі, якія працякаюць па тэрыторыі Беларусі:
   на поўдні – Прыпяць,
   на поўначы – Заходнюю Дзвіну,
   на захадзе – Нёман,
   на ўсходзе – Дняпро.
3. Выдзеліце сіняй рысай мяжу найбольшага прасоўвання апошняга ледавіка.
4. Нанясіце стрэлкамі асноўныя напрамкі засялення тэрыторыі Беларусі найбольш старажытнымі людзьмі.
5. Адзначце значком ▲ месцы знаходак крамянёвых прылад працы неандэртальцаў: Абідавічы, Свяцілавічы і Падлужжа (на Бердыжскай стаянцы).
6. Адзначце значком ■ і падпішыце месцы дзвюх найстаражытнейшых стаянак чалавека на тэрыторыі Беларусі.

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў ПЕРШАБЫТНАСЦІ




*На стужцы часу:*

1. Адзначце чорнай рысачкай час пачатку вырабу на тэрыторыі Беларусі глінянага посуду.
2. Адзначце тлустай чорнай рысачкай час, калі змерлі маманты.
3. Адзначце чырвонай рысачкай час, калі на тэрыторыі Беларусі з'явілася жывёлагадоўля.
4. Зафарбуйце аранжавым колерам адрэзак часу, на працягу якога доўжыўся бронзавы век на тэрыторыі Беларусі.
5. Падкрэсліце сіняй рысай адрэзак часу, на працягу якога першабытныя „шахцёры“ каля пасёлка Красасельскі здабывалі крэмень.
6. Зафарбуйце зялёным колерам адрэзак часу, на працягу якога доўжыўся жалезны век на тэрыторыі Беларусі.

Маштаб 1:4 000 000

1. Падпішыце рэкі, якія працякаюць па тэрыторыі Беларусі: Прыпяць, Дняпро, Бярэзіна, Сож, Заходняя Дзвіна, Вілія, Нёман.
2. Нанясіце чырвонымі стрэлкамі напрамкі засялення тэрыторыі Беларусі ў пасляледавіковы перыяд.
3. Зафарбуйце жоўтым колерам тэрыторыю, на якой у каменным веку размяшчалася найбольшая колькасць паселішчаў (вылучана пункцірам).
4. Адзначце на карце кружкамі:
   чырвоным – гарады, у якіх знойдзены цэлыя шкілеты мамантаў,
   сінім – горад, каля якога знойдзены матыкі з рагоў высакароднага аленя,
   зялёным – найбольш вядомае месца, дзе першабытныя „шахцёры“ здабывалі крэмень,
   аранжавым – месца стаянкі каменнага веку, на якой знойдзены дзве статуэткі людзей.
5. Адзначце штрыхамі тэрыторыю Беларусі, жыхары якой раней за іншых перайшлі да жывёлагадоўлі і земляробства.
6. Нанясіце шэрымі стрэлкамі напрамкі, адкуль на тэрыторыю Беларусі траплялі медзь і волава.

# НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ БРОНЗАВАГА І РАННЯГА ЖАЛЕЗНАГА ВЯКОЎ. БАЛТЫ І СЛАВЯНЕ




*На стужцы часу:*

1. Зафарбуйце зялёным колерам адрэзак часу, на працягу якога балты займалі найбольшую тэрыторыю.

2. Зафарбуйце сінім колерам час, на працягу якога балты падзяліліся на тры вялікія групы плямён.

3. Выдзеліце штрыхамі чырвонага колеру час „залатога веку“ балтаў.

4. Пазначце чорнай рысачкай мяркуемы час вылучэння славян у асобны народ.

5. Пазначце аранжавай рысачкай час з'яўлення славян на тэрыторыі Беларусі.

6. Пазначце зялёнай рысачкай час, калі на тэрыторыю Беларусі пранікла новая хваля славянскіх перасяленцаў.

Маштаб 1:17 000 000

1. Падпішыце:
   а) моры: Балтыйскае, Чорнае;
   б) рэкі: Дняпро, Дунай, Днестр, Заходні Буг, Прыпяць, Одэр, Вісла;
   в) горы: Карпаты.

2. Абвядзіце межы расселення трох груп балтаў: чырвоным колерам – усходніх, зялёным колерам – дняпроўскіх, сінім колерам – заходніх.

3. Выдзеліце карычневым колерам „бурштынавы шлях“.

4. Нанясіце стрэлкамі сіняга колеру і падпішыце напрамкі гандлю і абмену старажытных балтаў наступнымі таварамі: футра, жывёла, скура, мёд, воск.

5. Зафарбуйце жоўтым колерам тэрыторыі расселення дзвюх груп славян – склавінаў і антаў, напішыце іх назвы.

6. Пакажыце стрэлкамі чырвонага колеру напрамкі расселення славян у канцы V–VI ст. н. э. і аранжавым колерам – шляхі расселення славян на тэрыторыі Беларусі.

# УСХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ САЮЗЫ ПЛЯМЁН НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ




1. Падпішыце рэкі: Заходняя Дзвіна, Прыпяць, Дняпро, Свіслач, Сож.

2. Абвядзіце рознымі колерамі межы рассялення:
   крывічоў-палачан – чырвоным,
   дрыгавічоў – аранжавым,
   радзімічаў – карычневым.

3. Зафарбуйце жоўтым колерам тэрыторыю рассялення валынян.

4. Пазначце словам „крывічы“ тэрыторыі, дзе пражывалі пскоўская і смаленская групы крывічаў.

5. Падпішыце асноўныя гарады на землях усходнеславянскіх саюзаў плямён.

6. Падпішыце сінім і зялёным колерамі (суадносна) назвы суседніх усходнеславянскіх і балцкіх плямён.

*Работа з ілюстрацыямі:*

1. Напішыце, якімі лічбамі пазначаны на малюнках:

упрыгожанні:
а) крывічоў-палачан ______,
б) дрыгавічоў ______,
в) радзімічаў ______,
г) балтаў ______,
д) характэрныя для балтаў і славян ______;

вырабы з выкарыстаннем:
а) тэхнікі эмалі ______,
б) тэхнікі зерні ______,
в) свідравання ______;

розныя віды ўпрыгожанняў:
а) скроневыя кольцы ______,
б) пацеркі ______,
в) падвескі ______,
г) фібула ______.

2. Паразважайце, да якіх высноў могуць прыйсці археолагі, калі знаходзяць у той альбо іншай мясцовасці пэўныя скроневыя кольцы.




1. Падпішыце рэкі: Нёман, Заходняя Дзвіна, Прыпяць, Дняпро, Свіслач, Сож.

2. Пазначце суцэльнай сіняй лініяй гандлёвыя шляхі, якія праходзілі праз тэрыторыю Беларусі ў Раннім сярэдневякоўі.

3. Пакажыце карычневай стрэлкай, адкуль на тэрыторыю Беларусі траплялі прасліцы.

4. Пакажыце аранжавай стрэлкай, адкуль на тэрыторыю Беларусі трапляў бурштын.

5. Нанясіце сіняй стрэлкай напрамак, адкуль на тэрыторыю Беларусі трапляў высакаякасны посуд.

6. Зафарбуйце жоўтым колерам тэрыторыю, на якой славянскія жанчыны насілі металічныя пацеркі з буйной зерню.

*Пазначце стрэлкай ад прычыны да выніку:*

| |
|---|
| панаванне падсечна-агнявога земляробства |
| павелічэнне ўраджаяў |
| перасяленне народаў |
| вызваленне людзей ад удзелу ў вытворчасці |
| з'яўленне знатных людзей |
| з'яўленне скарбаў манет |

| |
|---|
| пашырэнне тэрыторыі рассялення славян |
| выкарыстанне новых прылад працы |
| разбурэнне родавай абшчыны |
| з'яўленне лішкаў прадуктаў |
| развіццё гаспадаркі |
| удзел усходніх славян у абмене і гандлю |

# УТВАРЭННЕ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ ВА ЎСХОДНІХ СЛАВЯН




*На стужцы часу:*

1. Пазначце сіняй рысачкай час стварэння Старажытнарускай дзяржавы.
2. Зафарбуйце жоўтым колерам адрэзак часу, на працягу якога меркавана правіў у Полацку Рагвалод.
3. Пазначце чорнай рысачкай, калі быў забіты Рагвалод.
4. Падкрэсліце чырвонай рысай час, на працягу якога ў Полацку існавала ўласная дынастыя.
5. Пазначце шэрым крыжом, калі Кіеву былі падпарадкаваны дрыгавічы.
6. Пазначце зялёнай рысачкай час афіцыйнага прыняцця на Русі хрысціянства ў якасці дзяржаўнай рэлігіі.

Маштаб 1:8 000 000

1. Выдзеліце чырвоным колерам межы Старажытнарускай дзяржавы ў канцы X ст. і падпішыце яе сталіцу.
2. Зафарбуйце сінім колерам тэрыторыю ўсходнеславянскага саюза плямён на тэрыторыі Беларусі, які быў падпарадкаваны Кіеву апошнім – недзе ў сярэдзіне X ст.
3. Зафарбуйце жоўтым колерам тэрыторыю, падуладную ў 960–970-я гг. Рагвалоду.
4. Падпішыце горад, у якім з 988 г. усталявалася ўласная княжацкая дынастыя.
5. Падпішыце горад, якім валодалі князі з роду Рурыкавічаў перад тым як атрымаць галоўны прастол Старажытнай Русі.
6. Пазначце штрыхамі тэрыторыю ў межах сучаснай Беларусі, якая належала Валынскаму княству.

# ПОЛАЦКАЕ КНЯСТВА ў X–XI стст.




*На стужцы часу:*

1. Зафарбуйце зялёным колерам адрэзак часу праўленння ў Полацку Брачыслава Ізяславіча.

2. Зафарбуйце сінім колерам адрэзак часу праўлення ў Полацку Усяслава Брачыславіча.

3. Адзначце чырвонай рысачкай год нападу Брачыслава Ізяславіча на Ноўгарад.

4. Адзначце чорнай рысачкай год бітвы на рацэ Нямізе.

5. Адзначце аранжавай рысачкай год нападу Усяслава Брачыславіча на Смаленск.

6. Падкрэсліце карычневай рысай час будаўніцтва Сафійскага сабора ў Полацку.

Маштаб 1:4 000 000

1. Падпішыце асноўныя рэкі Беларусі: Дняпро, Заходняя Дзвіна, Прыпяць, Нёман, Свіслач, Сож і адзначце сінімі рысачкамі волакі, якія злучалі рэкі Дняпро і Заходнюю Дзвіну.

2. Зафарбуйце жоўтым колерам тэрыторыю, якая была далучана да Полацкага княства ў час праўлення Брачыслава Ізяславіча. Падпішыце гарады на гэтай тэрыторыі.

3. Адзначце і падпішыце месца і год бітвы на рацэ Нямізе.

4. Абвядзіце зялёнай рысай межы Полацкага княства ў час праўлення Усяслава Брачыславіча.

5. Пакажыце чырвонымі стрэлкамі напрамкі паходаў Усяслава Брачыславіча.

6. Нанясіце чорнымі стрэлкамі напрамкі паходаў кіеўскіх князёў-Яраславічаў.

# ПОЛАЦКАЕ КНЯСТВА ў XII – сярэдзіне XIII ст.




*На стужцы часу:*

1. Пазначце чырвонай рысачкай час пачатку палітычнай раздробленасці Полацкага княства.
2. Зафарбуйце сінім колерам адрэзак часу праўлення ў Менску Глеба Усяславіча.
3. Пазначце зялёнай рысачкай год арганізаванага кіеўскім князем Мсціславам Вялікім пахода сямі князёў на Полацк.
4. Пазначце чорнай рысачкай час высылкі полацкіх князёў у Візантыю.
5. Падкрэсліце аранжавай рысай час міжусобнай барацьбы паміж Рагвалодам Барысавічам і Расціславам Глебавічам.
6. Выдзеліце шэрымі штрыхамі час узмацнення ў Полацкай зямлі ролі веча.

1117

ЯЦВЯГІ

ЛАТГАЛЫ

ЛІТВА

ЯЦВЯГІ

1117

Маштаб 1:4 000 000

1. Адзначце сіняй рысай межы Полацкай зямлі падчас перыяду палітычнай раздробленасці.
2. Падпішыце княствы-воласці Полацкай зямлі і суседнія княствы на ўсходзе і поўдні.
3. Падпішыце цэнтры валасцей Полацкай зямлі: Віцебск, Менск, Друцк, Ізяслаўль, Лагойск.
4. Выдзеліце чырвонай рысай межы Менскага княства ў час праўлення Глеба Усяславіча.
5. Падпішыце гарады, якія падпарадкаваў Глеб Менскі. Падкрэсліце горад, які быў разрабаваны.
6. Дапоўніце легенду да карты.




*На стужцы часу:*

1. Пазначце чырвонымі рысачкамі час першых згадак у летапісу аб Тураве і Пінску.
2. Адзначце зялёнай рысачкай час, калі тураўскі князь Святаполк „Акаянны“ стаў кіеўскім князем.
3. Адзначце сіняй рысачкай час, калі тураўскі князь Ізяслаў Яраслававіч стаў кіеўскім князем.
4. Адзначце аранжавай рысачкай час, калі тураўскі князь Святаполк Ізяслававіч стаў кіеўскім князем.
5. Зафарбуйце жоўтым колерам адрэзак часу праўлення ў Тураве Юрыя Яраслававіча.
6. Адзначце шэрымі штрыхамі час, калі Тураўская зямля падпарадкоўвалася то галіцкім, то чарнігаўскім князям.

Маштаб 1:4 000 000

1. Падпішыце найбуйнейшыя рэкі Тураўскай зямлі.
2. Адзначце і падпішыце асноўныя гарады Тураўскай зямлі і час першых згадак пра іх у пісьмовых крыніцах.
3. Выдзеліце сіняй рысай межы Кіеўскага княства і зялёнай рысай – мяркуемыя межы Тураўскага княства ў яго складзе.
4. Падпішыце суседнія з Тураўскім іншыя старажытнарускія княствы.
5. Падпішыце суседнія з Тураўскім княствам тэрыторыі: Пасожжа, Панямонне, Берасцейшчына.
6. Дапоўніце легенду да карты.




1. Напішыце ў адпаведных месцах назвы тэрыторый:
   Пасожжа – чырвоным колерам,
   Берасцейшчына – зялёным колерам,
   Панямонне – сінім колерам.
2. Падпішыце гарады: Берасце, Гародня, Навагародак, Гомель, Мсціслаў, Прапошаск, Крычаў, Чачэрск, Смаленск.
3. Падпішыце на карце старажытнарускія княствы: Смаленскае, Чарнігаўскае, Валынскае, Кіеўскае.
4. Пазначце штрыхамі тэрыторыі, якія адышлі да Смаленскага княства на пачатку XII ст.
5. Падкрэсліце:
   чырвонай рысай – назву горада, у якім уладарыў Расціслаў Мсціславіч,
   сіняй рысай – назву горада, які ў другой палове XII ст. стаў сталіцай асобнага княства-воласці Чарнігаўскай зямлі,
   зялёнай рысай – назву горада, які ўзнік у пачатку XI ст. як крэпасць на мяжы з польскімі плямёнамі.
6. Зафарбуйце жоўтым колерам тэрыторыю, на якой ў XII ст. сфарміраваліся асобныя княствы – Гарадзенскае, Новагародскае, Ваўкавыскае, Слонімскае.

*Выканайце заданні з назвамі гарадоў.*

**Берасце Ваўкавыск Гародня Гомель Дарагічын Камянец Кобрын Крычаў Мсціслаў Навагародак Прапошаск Слонім Чачэрск**

1. Падкрэсліце:
   чырвоным колерам – гарады Пасожжа,
   зялёным колерам – гарады Берасцейшчыны,
   сінім колерам – гарады Панямоння.
2. Адзначце:
   прамавугольнікам – гарады, якія ў канцы XII ст. уваходзілі ў склад Чарнігаўскага княства;
   круглымі дужкамі – гарады, якія з канца XII ст. уваходзілі ў склад Галіцка-Валынскага княства;
   квадратнымі дужкамі – гарады, якія з'яўляліся цэнтрамі асобных княстваў.

## ЗНЕШНЯЯ НЕБЯСПЕКА ў першай палове XIII ст.

Маштаб 1:8 000 000



















1. Падпішыце гарады пачатку XIII ст. па цячэнні ракі Заходняя Дзвіна (Даўгава), падкрэсліце тыя з іх, якія падпарадкоўваліся Полацку.

2. Нанясіце чырвонымі стрэлкамі напрамкі паходаў полацкага князя Уладзіміра.

3. Падпішыце чырвонымі літарамі старажытнарускія землі, якія змагаліся з крыжакамі ва Усходняй Прыбалтыцы.

4. Нанясіце сінімі стрэлкамі напрамкі нашэсця манголаў на паўднёвыя землі Беларусі. Падпішыце чырвонымі літарамі беларускія гарады, якія былі зруйнаваны манголамі.

5. Пазначце зялёнымі літарамі месцазнаходжанне заснаванай манголамі дзяржавы – Залатой Арды.

6. Дапоўніце легенду да карты.

*Работа з ілюстрацыямі:*

1. Вызначце і напішыце, якімі лічбамі пазначаны малюнкі з выявамі:

   старажытнарускіх воінаў ______ ,

   мангольскіх воінаў ______ ,

   нямецкіх рыцараў-крыжакоў ______ ,

   воінаў, якія выкарыстоўваюць зброю кідальнага тыпу ______ .

2. Пазначце на карце пэўнымі лічбамі, з якіх напрамкаў ажыццяўлялі напады гэтыя воіны (акрамя старажытнарускіх).

1
2
3
4

Маштаб 1:4 000 000

1. Падпішыце чорным колерам чатыры гарады на тэрыторыі Беларусі, якія вядомы паводле пісьмовых крыніц з IX–X стст.

2. Падпішыце па чатыры гарады, згадванне аб якіх адносіцца:
   да XI ст. – чырвоным колерам,
   да XII ст. – сінім колерам,
   да XIII ст. – зялёным колерам.

3. Падкрэсліце гарады, назва якіх утворана ад імён князёў, што іх заснавалі.

4. У вызначаным месцы на ўстаўцы напішыце назвы частак горада, якія пазначаны лічбамі.

5. Пазначце тлустай пункцірнай лініяй зялёнага колеру частку шляху „з варагаў у грэкі“ на тэрыторыі Беларусі.

6. Напішыце ўнутры стрэлак прадметы гандлю ў пазначаных напрамках.

*Выканайце заданні на схеме.*

Кіраванне ў старажытнарускім горадзе




1. Падкрэсліце рознымі колерамі (сінім, зялёным, чырвоным) княжацкія, царкоўныя і народныя органы кіравання ва ўсходнеславянскіх гарадах.

2. Пакажыце стрэлкай, які орган у надзвычайных абставінах мог прызначаць князя.

3. Упішыце ў дужкі справа ад стрэлкі, якую функцыю разам з кіраўніцтвам княжацкай гаспадаркай выконвалі цівуны.

4. Адзначце літарай А – хто выконваў усе справы ў горадзе і воласці пры адсутнасці альбо па даручэнні князя, літарай Б – хто кіраваў гарадскім апалчэннем.




*На стужцы часу:*

1. Адзначце чырвонай рысачкай час, калі на Русі было афіцыйна прынята хрысціянства.
2. Зафарбуйце зялёным колерам адрэзак часу жыцця Еўфрасінні Полацкай.
3. Адзначце сіняй рысачкай мяркуемы год нараджэння Кірылы Тураўскага.
4. Адзначце крыжом час, калі быў зроблены крыж Еўфрасінні Полацкай.
5. Адзначце шэрымі штрыхамі стагоддзе, на працягу якога былі пабудаваны Спаса-Праабражэнская і Каложская цэрквы.
6. Адзначце чорнай рысачкай год, калі быў зроблены надпіс на Рагвалодавым камяні.

Маштаб 1:4 000 000

1. Адзначце і падпішыце цэнтры першых епархій на тэрыторыі Беларусі і гады іх заснавання.
2. Падпішыце горад, у якім была пабудавана мураваная Барысаглебская (Каложская) царква.
3. Падпішыце чырвонымі літарамі гарады, у якіх жылі і дзейнічалі рэлігійныя асветнікі Еўфрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі.
4. Пазначце зорачкай і падпішыце гарады, па якіх былі названы найбольш старажытныя кнігі – евангеллі XI і XIII стст.
5. Пазначце значком ■ гарады, якія з'яўляліся цэнтрамі перапіскі кніг і ў якіх знойдзены металічныя засцежкі кніг.
6. Дапоўніце легенду да карты.




*На стужцы часу:*

1. Пазначце чырвонай рысачкай год, з якога ў летапісу згадваецца Міндоўг.

2. Адзначце чорнай рысачкай год, калі Ордэн мечаносцаў быў далучаны да Тэўтонскага ордэна.

3. Зафарбуйце жоўтым колерам адрэзак часу, на працягу якога Міндоўг кіраваў сваёй дзяржавай у якасці караля.

4. Зафарбуйце сінім колерам адрэзак часу, на працягу якога вялікім князем літоўскім быў Віцень.

Маштаб 1:5 000 000

1. Падпішыце:
   а) мора: Балтыйскае;
   б) рэкі: Нёман, Заходняя Дзвіна, Дняпро, Прыпяць, Вілія;
   в) гарады: Полацк, Віцебск, Новагародак, Ваўкавыск, Слонім, Вільня;
   г) дзяржаўныя ўтварэнні: Ордэн мечаносцаў, Тэўтонскі ордэн, Галіцка-Валынскае княства, Полацкая зямля, Наўгародская зямля.

2. Зафарбуйце тэрыторыі Аўкштайціі і Жамойці адпаведна жоўтым і аранжавым колерамі; адзначце чырвонымі штрыхамі тэрыторыю першапачатковай Літвы.

3. Адзначце косым чырвоным крыжом месцы бітваў каля горада Шаўлі і возера Дурбэ, падпішыце іх гады.

4. Падкрэсліце сіняй рысай назву горада, у якім меркавана адбылася каранацыя Міндоўга, і зялёнай рысай – назвы гарадоў, якія літоўскі князь Міндоўг часова аддаў галіцка-валынскім князям.

5. Адзначце сіняй пункцірнай рысай межы Вялікага Княства Літоўскага перад смерцю Міндоўга і ў час праўлення Віценя.

6. Адкажыце на пытанні:
   а) чые паходы на тэрыторыю дзяржавы Міндоўга адзначаны на карце стрэлкамі? ______________________
   ______________________________________________
   б) каму Міндоўг аддаў частку сваёй тэрыторыі, адзначанай на карце штрыхамі? ______________________
   ______________________________________________

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ ПРЫ ГЕДЗІМІНЕ І АЛЬГЕРДЗЕ. КРЭЎСКАЯ УНІЯ




*На стужцы часу:*

1. Адзначце тлустай сіняй рысай час, калі да ВКЛ былі далучаны Полацкая зямля і Менскае княства.

2. Адзначце чырвонай рысай год, у які Гедзімін перанёс сталіцу дзяржавы ў Вільню.

3. Зафарбуйце зялёным колерам час уладарання ў ВКЛ Альгерда.

4. Адзначце чорнымі рысачкамі гады паходаў Альгерда на Маскву.

3
4
1385
2
5
1
1370
1368
1372
1385

Маштаб 1:8 000 000

1. Падпішыце асноўныя рэкі Усходняй Еўропы: Дняпро, Нёман, Заходняя Дзвіна, Прыпяць, Днестр, Прут, Вісла.

2. Напішыце, якімі лічбамі на карце пазначаны тэрыторыі, якія:

а) добраахвотна ўвайшлі ў склад ВКЛ: _______,

б) уключаны ў склад ВКЛ праз шлюб: _______,

в) былі далучаны да ВКЛ ваенным шляхам: _____.

3. Адзначце косымі крыжамі месцы бітвы на рацэ Стрэве і на Сініх Водах; побач падпішыце гады, калі яны адбыліся.

4. Адзначце сіняй рысай межы ВКЛ у 1316 г. і чырвонай рысай – у 1385 г.

5. Правядзіце рысу, па якой падзяляліся тэрыторыі ВКЛ пад кіраваннем Альгерда і Кейстута.

6. Дапоўніце легенду да карты.




1. Падпішыце гарады: Вільня, Полацк, Менск, Віцебск, Гародла, Кіеў, Чарнігаў, Бранск, Смаленск, Цвер, Пскоў, Масква, Рыга, Кракаў.

2. Падкрэсліце зялёнай рысай назвы гарадоў – цэнтраў удзельных княстваў, скасаваных Вітаўтам.

3. Зафарбуйце жоўтым колерам тэрыторыі, далучаныя да ВКЛ падчас праўлення Вітаўта: Смаленскае княства, нізоўі Дняпра, Жамойць.

4. Адзначце чырвонай рысай межы ВКЛ у 1392 г. і аранжавай рысай – у 1430 г.

5. Падпішыце чорнымі літарамі назвы суседніх з ВКЛ дзяржаў. Падкрэсліце чырвонай рысай тыя з іх, якія некаторы час падпарадкоўваліся Вітаўту ці знаходзіліся пад уплывам ВКЛ.

6. Адзначце косым чырвоным крыжом месца бітвы на рацэ Ворскла і побач падпішыце год, калі яна адбылася.

*Напішыце, аб якіх гарадах ідзе гаворка. Калі магчыма, знайдзіце іх на карце.*

1. Які горад з'яўляўся сталіцай апошняга буйнога княства паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам, захопленым Вітаўтам у 1404 г.? ____________________

2. У якім горадзе ў 1413 г. была заключана новая унія паміж ВКЛ і Каралеўствам Польскім? _______

3. У якім германскім горадзе ў 1414–1417 гг. праходзіў Царкоўны сабор, які адхіліў прэтэнзіі Тэўтонскага ордэна да ВКЛ і Польшчы? _________________

4. У якім горадзе пасля 1425 г. правілі дачка Вітаўта Соф'я і яго ўнук Васіль II? ______________________

## „ВЯЛІКАЯ ВАЙНА“ І ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА




Рыга
Масква
В Вільня
А
Марыенбург
1410
Б
Д
Е
Кракаў
Г
Е
Вена
Буда
Сучава

Кракаў
1410

Маштаб 1:9 000 000




1. Напішыце чорнымі літарамі на карце назвы дзяржаўных утварэнняў: Лівонскі ордэн, Тэўтонскі ордэн, Каралеўства Чэхія, Каралеўства Польскае, Каралеўства Венгрыя, Малдаўская зямля, Маскоўскае вялікае княства, Залатая Арда.

2. Падкрэсліце сіняй рысай назвы дзяржаў, якія выступілі саюзнікамі Тэўтонскага ордэна.

3. Адзначце чырвонымі штрыхамі тэрыторыю, якую страціла ВКЛ паводле Салінскіх пагадненняў 1398 г.

4. Адзначце зялёнай рысай межы ВКЛ і аранжавай рысай – межы Каралеўства Польскага напярэдадні Грунвальдскай бітвы.

5. Адзначце на карце рух харугваў ВКЛ да Грунвальда чырвонымі стрэлкамі і Каралеўства Польскага – аранжавымі стрэлкамі.

6. Дапоўніце легенду да карты.

### *Работа з ілюстрацыямі:*

1. Вызначце і напішыце, якімі лічбамі пазначаны малюнкі з выявамі:

воінаў ВКЛ ___________,
воінаў Каралеўства Польскага ___________,
тэўтонскіх рыцараў ___________,
ардынскіх воінаў ___________.

2. Суаднясіце выявы воінаў з месцамі на карце, адкуль яны паходзілі (пазначаны літарамі):

| | | |
|---|---|---|
| 1. – | 2. – | 3. – |
| 4. – | 5. – | 6. – |
| 7. – | 8. – | 9. – |



Маштаб 1:8 000 000

1. Падпішыце ў адпаведным месцы назвы гарадоў: Вільня, Полацк, Віцебск, Гродна, Брэст, Смаленск, Мсціслаў, Гомель, Навагрудак, Трокі, Вількамір, Чарнігаў, Кіеў, Ноўгарад-Северскі, Луцк.

2. Падкрэсліце чырвонай рысай назвы гарадоў, якія падтрымлівалі Свідрыгайлу Альгердавіча, сіняй рысай – Жыгімонта Кейстутавіча.

3. Падпішыце ў адпаведных месцах назвы дзяржаў.

4. Падкрэсліце чырвонай рысай назвы дзяржаў, якія падтрымалі Свідрыгайлу Альгердавіча ў пачатку грамадзянскай вайны.

5. Падпішыце зялёнымі літарамі ў адпаведным месцы гістарычную вобласць, частку якой захапіла Каралеўства Польскае ў пачатку грамадзянскай вайны.

6. Адзначце касым крыжом сіняга колеру месца бітвы пад Вількамірам і побач – год, калі яна адбылася. Стрэлкамі з пункцірам пазначце напрамак бегства Свідрыгайлы Альгердавіча.

*Работа са схемай бітвы:*

1. Падпішыце назвы населенага пункта (на поўначы) і ракі, якая праз яго працякае.

2. Падпішыце побач са знакамі абозаў імёны кіраўнікоў войскаў.

3. Зафарбуйце на схеме: чырвоным колерам войскі Свідрыгайлы Альгердавіча і сінім – Жыгімонта Кейстутавіча.

4. Паразважайце, як асаблівасці мясцовасці і надвор'е садзейнічалі перамозе Жыгімонта Кейстутавіча.

# ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА ВКЛ у другой палове XV ст.




*На стужцы часу:*

1. Адзначце чырвонай рысачкай год, калі Казімір Ягайлавіч быў выбраны польскім каралём.

2. Адзначце тлустай чорнай рысачкай час, калі Крымскае ханства адасобілася ад Залатой Арды.

3. Адзначце сіняй рысачкай год, калі Наўгародская зямля была канчаткова далучана да Маскоўскага вялікага княства.

4. Адзначце зялёнай рысачкай год, калі быў заключаны саюз Крымскага ханства з Маскоўскім вялікім княствам.

5. Зафарбуйце жоўтым колерам час, на працягу якога Казімір Ягайлавіч займаў прастол ВКЛ.

6. Адзначце аранжавымі штрыхамі час, на працягу якога Казімір Ягайлавіч займаў польскі прастол.

Маштаб 1:8 000 000

1. Падпішыце дзяржавы другой паловы XV ст.: Каралеўства Польскае, Тэўтонскі ордэн, Лівонскі ордэн, Каралеўства Венгрыя, Княства Малдова, Маскоўскае вялікае княства, Наўгародская зямля, Крымскае ханства, Вялікая Арда.

2. Падпішыце ў адпаведных месцах назвы гарадоў: Вільня, Рыга, Кёнігсберг, Кракаў, Сучава, Масква, Пскоў, Разань (Пераяслаў-Разанскі), Цвер.

3. Падкрэсліце чырвонай рысай назвы дзяржаў, якія заключылі пагадненне 31 жніўня 1449 г.

4. Адзначце штрыхамі зялёнага колеру тэрыторыі, на якія прэтэндавала Каралеўства Польскае.

5. Падкрэсліце сіняй рысай назвы дзяржаў, на чале якіх знаходзіліся прадстаўнікі дынастыі Ягелонаў.

6. Дапоўніце легенду да карты.




1. Адзначце зялёнай рысай межы ВКЛ ў канцы XV ст.

2. Падпішыце рэкі на тэрыторыі Беларусі, па якіх праходзілі гандлёвыя шляхі.

3. Падпішыце чорнымі літарамі ў адпаведным месцы назвы суседніх дзяржаў, з якімі ВКЛ падтрымлівала гандлёвыя адносіны.

4. Падпішыце назвы не менш за 10 гарадоў на тэрыторыі Беларусі; падкрэсліце чырвонай рысай найбольш буйныя з іх і зялёнай рысай – назвы тых з іх, якія атрымалі магдэбургскае права да канца XV ст.

5. Напішыце ўнутры стрэлак прадметы гандлю ў пазначаных напрамках.

6. Правядзіце тлустай сіняй лініяй рачны шлях, які лічыўся самым выгадным у XV ст. у ВКЛ. Дамалюйце яго працяг па мору.

*Выканайце заданне:*

Напішыце, з якіх краін (абласцей) траплялі на тэрыторыю Беларусі ў XV ст. наступныя тавары:

а) каштоўныя футры, скуры: ________________,
б) шоўк, турэцкія дываны: ______________________,
в) соль, жалеза, жалезныя вырабы: ________________,
г) селядцы, сукны: ______________________.

# ЦАРКВА, РЭЛІГІЯ І КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У XV ст.



















Маштаб 1:8 000 000

1. Падпішыце назвы населеных пунктаў: Вільня, Коўна, Трокі, Расіены, Полацк, Віцебск, Смаленск, Ліда, Навагрудак, Гродна, Тураў, Пінск, Уладзімір-Валынскі, Луцк, Кіеў, Камянец, Сынкавічы, Ішкалдзь, Уселюб, Супрасль, Лаўрышава.

2. Падкрэсліце чырвонай рысай цэнтры праваслаўных мітраполій і епархій, сіняй рысай – цэнтры каталіцкіх біскупстваў на тэрыторыі ВКЛ.

3. Замалюйце сінімі штрыхамі тэрыторыю Беларусі, на якой у XV ст. узводзілася пераважная большасць каталіцкіх касцёлаў.

4. Адзначце знакам ▲ месцы пабудовы найбольш буйных замкаў на тэрыторыі ВКЛ.

5. Адзначце знакам ■ месцы пабудовы ў XV ст. найбольш вядомых касцёлаў на тэрыторыі Беларусі.

6. Падкрэсліце зялёнай рысай назвы гарадоў, у якіх у Познім сярэднявеччы вялося летапісанне.

*Работа з ілюстрацыямі:*

1. Якімі лічбамі адзначаны архітэктурныя помнікі:
   абарончага дойлідства: __________,
   культавага дойлідства: __________.
2. Які архітэктурны стыль пераважае ў абліччы гэтых помнікаў: ______________________________.
3. Які з гэтых архітэктурных помнікаў знаходзіцца за межамі Рэспублікі Беларусь: _____________.
4. Адзначце лічбамі на карце месцы, дзе знаходзяцца гэтыя архітэктурныя помнікі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Ліда | | Трокі | | Навагрудак | |
| Уселюб | | Ішкалдзь | | Сынкавічы | |

## ЗМЕСТ




Вучэбнае выданне

Змест і практычныя заданні распрацаваў С. М. Цемушаў
Карты складзены і падрыхтаваны да друку Рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам „Белкартаграфія“ Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь у 2011 г., папраўлены і дапоўнены ў 2016 г.
Рэдактары: Г. С. Малышава, Д. Я. Макарэвіч
Тэхнічны рэдактар Н. М. Шэвель

Падпісана да друку 18.10.2016.
Фармат паперы 62x88 1/8.
Друк. арк. 3. Ум. друк. арк. 3,03.
Тыраж 30 000 экз. Заказ № 16/237.

РУП „Белкартаграфія“.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў №1/30 ад 19.03.2013.
Пр. Машэрава, 17А, 220029, Мінск.
Тэл./факс:(017)284-71-59, 334-81-54.
E-mail: belkartograf@yandex.by

СП „Паліграфхаўз“ ТАА.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/77 ад 13.03.2014.
Вул. Якубоўскага, 51, 220018, Мінск.

ISBN 978-985-508-354-3


